наша свабода

№42(129) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 КРАСАВІКА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Заявление КНГ ОБСЕ

Консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ отрицает обвинения, сделанные 12 апреля 2001 г. Леонидом Ериным, руководителем Комитета государственной безопасности РБ, который сказал, что международная помощь в обучении внутренних наблюдателей за выборами должна рассматриваться как вербовка шпионов. Говоря от лица институтов ОБСЕ, посол Вик, руководитель Консультативно-наблюдательной группы, заявил, что ОБСЕ оказывает поддержку в проведении курсов по избирательному законодательству и постановлениям по его применению, а также в осуществлении прав и обязанностей наблюдателей за выборами. Это стандартная практика в деятельности ОБСЕ, которая проводилась без каких-либо инцидентов или возражений со стороны властей во время выборов в местные советы и парламентских выборов в 1999 и 2000 гг. Программы были и остаются прозрачными и не имеющими ничего общего со шпионажем или политической воинственностью. Напротив, внутренние наблюдатели за выборами выполняют важную функцию гражданского общества: они наблюдают за соблюдением властями и избирательными комиссиями законов при проведении выборов. По определению эта функция широкого наблюдения за выборами по всей стране не может выполняться правительственными структурами, она должна исходить от других структур, отличных от официальных институтов. Сотрудничество ОБСЕ с внутренними наблюдателями легитимно и необходимо.

Консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ с обеспокоенностью наблюдает за общественной кампанией, основанной на сфабрикованном, и потому фальшивом ассоциировании миссии с воинственностью, боевиками и иной незаконной деятельностью, нацеленной на подрыв честности Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ. Консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ все время предоставляла консультации правительственным структурам и Центральной комиссии РБ по проведению выборов и республиканских референдумов с целью углубления понимания роли правительственных органов, избирательных комиссий и наблюдателей.

Консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ остается приверженной стоящим перед ней задачам. Она привержена сотрудничать как с правительственными институтами, так и с неправительственными организациями с целью способствовать развитию демократических институтов, в частности, в широких массах.

Пропагандистские кампании против международных институтов в Беларуси наносят вред престижу страны за рубежом.


Фота Ул.ШЛАПАКА
● На бітву за выкананне сельгасзадачаў А.Лукашэнкі выйшла тэхніка. Працяг тэмы на стар.6

## Найбольшы рост цэнаў – у красавіку

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень красавіка рост спажывецкіх цэнаў у краіне склаў 2%. Дарэчы, сёлета гэта самы высокі паказчык росту цэнаў па выніках першага тыдня месяца. Для параўнання, за першы сакавіцкі тыдзень цэны ўзраслі на 1,7%, лютага — на 0,9%, студзеня — на 1,4%.

Наогул з пачатку года спажывецкія цэны ў Беларусі павялічыліся на 15,4%.

## ЧАЭС зноў пагражае

Колішні намеснік дырэктара Чарнобыльскай АЭС па праграме «Аб'ект Укрыццё» Валянцін Купны заявіў днямі, што абалонка саркафага над атамным рэактарам можа парушыцца ў любы момант. Так што пагроза новага буйнага выкіду радыяцыі, на жаль, вельмі верагодная. І зараз з чацвёртага атамнага блока штодня вылятае радыеактыўны пыл. А тым часам, як паведаміла прэс-служба канцэрна «Расэнергаатам», спынены першы энергаблок на Смаленскай АЭС.

# Запозненае прызнанне

Падчас рабочага візіту ў Свярдлоўскую вобласць прэзідэнт Беларусі пракаменціраваў сваё стаўленне да сітуацыі вакол НТВ. Як паведамляюць расійскія інфармацыйныя крыніцы, Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі таксама былі «пэўныя канфлікты», звязаныя са свабодай слова, але сёння ўсе яны «распахова вырашаны». З гэтых канфліктаў, зазначыў прэзідэнт, ён вынес адно: журналістаў нельга ламаць.

Што тычыцца расійскіх тэлекампаніяў, у тым ліку і НТВ, Лукашэнка ўпэўнены, што яны сёння самыя магутныя і прафесійныя ў свеце. Беларускай прэсе ёсць у каго вучыцца, упэўнены прэзідэнт. «*CNN* не ідзе ні ў якае параўнанне з расійскім тэлебачаннем. Расійскае тэлебачанне самае магутнае, яго трэба берагчы», — заўважыў Лукашэнка. Пры гэтым ён лічыць, што тэлебачанне павінна абслугоўваць патрэбы дзяржавы, праводзіць дзяржаўную палітыку.

**БелаПАН**

## Ніжэй спажывецкай «мінімалкі»

На студзень гэтага года мінімальны спажывецкі бюджэт раўняўся 67 тысячам рублёў, а вось памеры сярэдніх заробкаў у шэрагу галінаў гаспадаркі былі ніжэй за гэты ўзровень. Так, у сельскай гаспадарцы яна склала 45 тысячаў, у работнікаў сацыяльнага забеспячэння – 49 тысячаў, агульнага харчавання – 51,5 тысячы, бытавога абслугоўвання – 53 тысячы.

## Большасць вакансіяў – для рабочых

На ўліку ў Камітэце па занятасці насельніцтва пры мінпрацы знаходзяцца 36 тысячаў вакансіяў. Каля 75% свабодных месцаў падыдуць рабочым, астатнiе – службоўцам. Больш за ўсё працоўных патрэбна прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

## Крымінальная справа супраць банкіра

Следчым камітэтам пры міністэрстве ўнутраных справаў Беларусі ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні да старшыні праўлення «Беларускага Біржавога Банка» Андрэя Маркоўскага. Ён затрыманы па падазрэнні ў крадзяжы валютных сродкаў у асабліва буйных памерах.

## Мытнікі спаборнічаюць у кемнасці

16 красавіка ў Брэсце адкрыўся першы рэспубліканскі конкурс прафесійнага майстэрства супрацоўнікаў мытнай службы. На працягу трох дзён прадстаўнікі мытняў будуць спаборнічаць і паказваць свае прафесійныя навыкі, якія дазваляюць разгадваць хітрыкі кантрабандыстаў. 19 красавіка пераможцы атрымаюць узнагароды.

# У пагоні за падтрымкай

*Парыў, блізкі да любоўнага, апантаў учора Аляксандра Лукашэнку ў Екацярынбургу, куды той прыехаў з афіцыйным візітам на два дні. Нягледзячы на ўсе афіцыйныя праграмы, дамоўленасці і проста правілы этыкету, беларускі кіраўнік з уласным яму спартовым энтузіязмам ірвануў дадому, у Мінск. Хто ж стаў прычынай такога сардэчнага парыву? Як ні дзіўна, гэта былы расійскі міністр абароны, былы генерал КДБ Сяргей Іваноў.*



Прыезд Сяргея Іванова ў Мінск планаваўся загадзя – як, зрэшты, і візіт А.Лукашэнкі ў Свярдлоўскую вобласць. Ніякіх нечаканасцяў тут не мусіла быць. Аднак лёс склаўся па-іншаму.

Аляксандр Лукашэнка чакаў, што Сяргей Іваноў прыедзе ў панядзелак зранку, яны мірна паразмаўляюць, пасля чаго кожны зоймецца сваёй справай: беларускі кіраўнік паляціць на Урал, а расійскі «сілавік» правядзе сустрэчу са сваім мінскім калегам, паўдзельнічае ў сумесным пасяджэнні ваенных калегіяў дзвюх краінаў і г.д. У С.Іванова былі, аднак, зусім іншыя планы, і сустрэча з А.Лукашэнкам у іх, відаць, не ўваходзіла. Таму беларускаму кіраўніку давялося выправіцца ў Екацярынбург, так і не пабачыўшы расійскага госця.

Відавочна, што там ён як на іголках сядзеў, нерваваўся – што робіцца на радзіме? І нарэшце не вытрымаў – кінуўся насустрач, не клапоцячыся пры гэтым, як захаваць твар.

А твар тут ёсць ад чаго згубіць. Калі кіраўнік суверэннай дзяржавы перапыняе афіцыйны візіт і тэрмінова вяртаецца на радзіму, мусіць адбыцца як мінімум стыхійнае бедства. Але зусім не прыезд міністра абароны суседняй краіны.

Зрэшты, нежаданне С.Іванова сустракацца з А.Лукашэнкам сапраўды нагадвае катастрофу. Асабіста для А.Лукашэнкі. Напярэдадні выбараў. Здаецца, што беларускі кіраўнік у паніцы – ён кідаецца то ў той, то ў іншы бок, уважліва ўслухоўваецца ў прамовы і ўглядваецца ў твары расійскага кіраўніцтва, каб пабачыць знак: дапамогуць ці не? Але разведчык Уладзімір Пуцін умее маўчаць, яго адмыслова навучалі гэтаму майстэрству.

Не пачуўшы адназначнага адказу ад расійскага прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка пачынае аказваць знакі ўвагі ягонаму атачэнню. Так яшчэ ў савецкія часы наведвальнікі высокіх кабінетаў даравалі сакратаркам цукеркі і каньяк. Досвед паказваў, што інвестыцыі апраўдваліся – спрытныя дзяўчаты не толькі былі ў курсе планаў «галоўнага», але маглі нават стварыць у ягоных вачах станоўчы імідж прасіцеля.

Цяпер, прайшоўшы добрую савецкую бюракратычную школу, Аляксандр Лукашэнка рады любому госцю з Масквы. Незалежна ад рангу візіцёра і таго, што гэты госць думае пра беларускага кіраўніка.

Але, здаецца, Аляксандр Лукашэнка памыліўся ў выбары суразмоўцы. Сяргей Іваноў захоўваць таямніцу ўмее не горш за свайго патрона. Бо абодва яны праходзілі аднолькавую школу. Расійскія журналісты не аднойчы пісалі пра «феномен Іванова»: калі ўзяць і параўнаць яго месяцамі з Уладзімірам Пуціным, нічога ў краіне не зменіцца; больш за тое, шмат хто нават не заўважыць падмены.

На момант падпісання нумара ў друк А.Лукашэнка яшчэ ляцець у Мінск. Магчыма, што рандэву ўсё ж адбудзецца – калі С.Іваноў не паспяшаецца ў апошні момант вярнуцца ў Маскву. Але мы ўпэўненыя ў іншым – магчымая сустрэча не будзе мець флёру сяброўскага спаткання. Да апошняга моманту расійскае кіраўніцтва будзе трымаць А.Лукашэнку ў няведанні – каго ж падтрымае Масква на выбарах. І калі не знойдзецца іншай кандыдатуры, якая будзе больш задавальняць Крэмль, то тады блаславенне (і фінансаванне) атрымае цяперашні беларускі кіраўнік.

Пры гэтым, «кліент» будзе ўжо гатовы – знерваваны, запалоханы і ўдзячны на наступныя пяць гадоў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## У касцёле Святога Роха — канцэрты

У Мінску працягваецца, распачаты з панядзелка 16 красавіка, фестываль духоўнай музыкі «Залатагорская ліра». Ён будзе доўжыцца да 29 красавіка. Гэтымі днямі ў сталічным касцёле Святога Роха выступяць такія вядомыя хары, як «Глорыя», «Голас душы» і «Залатая горка». Уваход на гэтыя канцэрты вольны.

## Зарплату далі слоікамі

На вытворча-харчовым камбінаце ў Камянцы апошнюю зарплату за люты працоўным выдалі «натурай». Гэта паўлітровымі слоікамі і закатквымі крышкамі. Рабочыя камбіната ўзялі так палову зарплаты, а адміністрацыя – наогул усю. Цяпер засталося знайсці, як і дзе прадаць гэтую тару.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1350

КАНТАКТЫ

## За мяжу — толькі «маральна ўстойлівых»

130 студэнтаў 4 курса Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта пачалі 16 красавіка шасцімесячную вытворчую практыку ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Эўропы. Прыняць гродзенскіх студэнтаў пагадзіліся Англія, Германія, Ірландыя, Швейцарыя і Польшча.

Плануецца, што за час практыкі студэнты вывучаць вопыт працы калектыўных і фермерскіх гаспадарак. Жадаючых узяць удзел у конкурсным адборы было каля 200. Кіраўніцтва універсітэта выставіла даволі строгія ўмовы адбору: сярэдні бал «4» і вышэй, веданне англійскай мовы альбо мовы прымаючай краіны, «маральная ўстойлівасць».

Студэнты, якія выехалі на замежную практыку, забяспечваюцца бясплатным пражываннем і харчаваннем, а таксама кішэннымі грашамі.

**БелаПАН**

## Вілейскія эксплуататары

Адміністрацыя завода «Зеніт» у Вілейцы, павялічыўшы заработную плату рабочых, «кампенсавала» для сябе гэта тым, што пагоршыла ім умовы працы. Справа ў тым, што заробкі на «Зеніце» ў звязку з падвышэннем «мінімалкі» праіндэксавалі, але адначасна з'явіўся загад, паводле якога час працы ў адну змену ўзрос да 16 гадзінаў. Прычым калі рабочы не спраўляецца з нормай, яму пагражае звальненне.

У мясцовай пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза беларускага такія дзеянні кіраўніцтва завода лічаць незаконнымі і разам з тым даводзяць, што адміністрацыя недастаткова клапоціцца пра тэхніку бяспекі працы. На заводзе пачаўся збор подпісаў за патрабаванне адмены дадзенага загада дырэктара «Зеніта».

**Алесь КАТОВІЧ**

МАРАЛЬ

## Калгаснікі абралі клапатліўцу

Калектыў калгаса «Азёры», што ў Гродзенскім раёне, аднагалосна абраў дэлегатам на Усебеларускі народны сход Аляксандра Лукашэнку.

Прапанову аб вылучэнні Лукашэнкі дэлегатам агучыў намеснік старшыні калгаса «Азёры» Генадзь Мазюк. Ён адзначыў, што дзякуючы кіраўніку краіны калгас мае сучасны свінагадоўчы комплекс на 12 тысяч свіней.

**БелаПАН**

КУЛЬТУРА

# Хто не паспеў, той не спазніўся

Прэзентацыя альбома «Вольныя танцы: альтэрнатыва-by», выдадзенага Беларускай музычнай альтэрнатывай, прайшла 13 красавіка на дзяўціха і млява. Ці прыйшлі не аматары, ці проста было мала народу з-за надыходзячага Вялікадня. Прэзентацыя альбома прайшла напалову: толькі адзін дзень з двух запланаваных. Аднак, хто не паспеў на яе, той не спазніўся, бо гэтыя другі дзень перанесены на 19 красавіка.

Сама кампіляцыя падабраная няблага. Па-першае, парадавала тое, што нарэшце людзі пачуюць голас рэгіёнаў, бо гэты альбом уключае ў сябе кампазіцыі гуртоў з розных куткоў Беларусі. Па-другое, БМА дабілася «чысціні» мовы: усе песні ў альбоме спяваюцца па-беларуску. Па-трэцяе, новае яно заўсёды свежае. Гэта пра незнаёмыя гурты. Хоць на дыску маюцца і мэтры беларускага рок-н-ролу, такія, як «Крама», «Уліс», «НРМ», «Крывы», але яны не заглушаюць маладых спевакоў. Кампазіцыя гурта «Айша» (Гародня) зацікавіла роўна столькі, колькі і гурта «САД» (Берасце), «Вруцэлета» (Гомель). Хочацца пачуць яшчэ іх іншыя песні, пазнаёміцца з іхняй творчасцю бліжэй, бо гэта сапраўды альтэрнатыўная музыка, не заангажаваная, даволі лёгкая. Па словах Сяргея Сахарава, прадстаўніка БМА, гэты альбом ёсць доказам таго, што андэграўндская музыка – мінулае, сёння паціху рухаецца наперад камерцыйная альтэрнатыўная музыка, якая дазваляе спевакам не толькі іграць любімыя мелодыі, але і зарабляць.

У альбоме змешчаныя і даволі вядомыя песні маладых гуртоў, як «Без білета» («Мая краіна – Беларусь»), *Zet* («Нармальна»), «Імпэт», «*Long Play*», «*Happy Face*», «*POST-SCKRIPTUM*» і інш.

**Ірына ТОЎСЦІК**

ФОТАФАКТ



Традыцыйны штогадовы рамонт мінскага асфальту

## Народныя гулянні «Канчатковы дыягназ»

21 красавіка незарэгістраваны студэнцкі рух «Зубр» мае намеры правесці ў мінскім парку імя Горкага народныя гулянні пад назвай «Канчатковы дыягназ». Яны будуць праведзеныя з нагоды Дзён псіхічнага здароўя, якія праходзяць у Беларусі два тыдні – з 7 па 21 красавіка.

У афішы да народных гулянняў іхнія арганізатары канстатуюць, што «дыктатура небяспечная для псіхічнага здароўя», і кажуць, што падчас мерапрыемства ў людзей будзе магчымасць «прайсці курс адзінкавай тэрапіі пад наглядам вядомага ўрача-псіхіятра Шчыгельскага, узяць удзел у псіхатэрапеўтычных сеансах, закадзіравацца ад беднасці і няшчасцяў, паслухаць супакойваючую музыку ў выкананні «зорак» беларускай эстрады і палітыкі».

**Алесь КАТОВІЧ**

## Зноў перакройваюць Палессе

На Брэстчыне ўжо 94 калгасы, саўгасы і нават сельскагаспадарчыя прадпрыемствы (СКП) страцілі свой статус юрыдычнай асобы. Згодна з разнарадкай, вобласць зменшыла колькасць «ляжачых» гаспадарак адразу на 26%, далучыўшы іх да суседніх. Прыкладам, калгас імя Леніна Іванаўскага раёнаператвораны ў брыгаду калгаса «40 гадоў Кастрычніка»; СКП «Лясное» Брэсцкага раёна стаў прыдаткам свінагадоўчага комплексу «Заходні». А ў Пінскім раёне пачаты працэс рэгістрацыі агракамбіната «Палессе» на базе адразу 5 калгасаў: «Перамога», імя Калініна, «Камунар», «Прагрэс», «Парахонскі». На выселеная з-за татальнай меліярацыі прасторы 42 км у даўжыню і больш за 30 км у шырыню адбываецца чарговы перадзел тарфянікаў на карысць іх пераважнага выкарыстання пад зерневыя культуры. Гэта нішто іншае, як спроба стварыць на Палессі сваю нацыянальную «цаліну».

**Галіна БАРАВАЯ**

ЭТЫКА

## Зімоўскі цвердзіць, што ён нармальны

«Я нармальны, ангажаваны ўладай журналіст», — заявіў вядучы праграмы «Рэзананс» Беларускага тэлебачання Аляксандр Зімоўскі падчас сваёй сустрэчы са студэнтамі факультэта журналістыкі БДУ. Ён праводзіў лекцыю па журналісцкай этыцы.

Па словах Зімоўскага, Беларускае тэлебачанне ёсць аб'ектыўная крыніца інфармацыі, яно захоўвае ў сваёй працы прынцыпы свабоды слова ў межах, вызначаных Канстытуцыяй. «Чыстая» свабода слова, на думку Зімоўскага, «можа існаваць толькі ў вар'ятні», у звычайным жыцці такая з'ява немагчымая.

Зімоўскі заявіў, што ў сваіх сацыялагічных апытаннях карэспандэнты АТН не карыстаюцца метадам падбору ці падтасоўкі думак. Майстэрства сацыёлага, па яго словах, складаецца з таго, каб паставіць пытанне такім чынам, каб дзевяць з дзесяці атрыманых адказаў адпавядалі задачам чалавека з мікрафонам.

Зімоўскі не баіцца перамены ўлады, якая можа адбыцца ў выніку прэзідэнцкіх выбараў. Ён заявіў, што стане беспрацоўным роўна на 15 секундаў — на час, неабходны, каб набраць «патрэбны тэлефонны нумар». Які канкрэтна — вядучы «Рэзананса» не ўдакладніў.

Першы нацыянальны тэлеканал, па словах Зімоўскага, жыве ў асноўным з бюджэтных сродкаў; на рэкламе ён зарабляе не больш як 900 тысяч USD штогод. Зімоўскі марыць аб стварэнні цэлай сеткі замежных карпунктаў. Пакуль жа БТ можа ганарыцца толькі маскоўскім карпунктам.

**Таццяна ПАПОВА, БелаПАН**

## Вакзал для мільёнаў

На чыгуначным вакзале «Брэст-Цэнтральны» распачаты чарговы этап рэканструкцыі, прымеркаваны да 115-й гадавіны гэтага архітэктурнага помніка горада над Бугам. Будаўнікі-дарожнікі мяняюць зараз стары бетонны насціл на новую ходнікавую плітку з усходняга ўваходу ў білетныя касы і з заходняга — у залу чакання. А на трэцім паверсе пад шпілем з пікцітнай зоркай у разгары еўрарамонт канферэнц-залы.

Трацяцца шматмільённыя сумы (пры перыядычным павышэнні кошту праезду), каб стварыць уражанне прэзентабельнасці дарогі на маючай адбыцца 26 траўня ў Брэсце міжнароднай канферэнцыі па пытаннях развіцця транспартных перавозак на накірунку «Еўропа-Азія». Дарэчы, у рамках гэтага мерапрыемства будзе адзначаны і гістарычны Дзень народзінаў вакзала, які быў пабудаваны з цэглы ў 1886 годзе. Зараз праз «заходнія вароты» Беларусі перамяшчаецца за год да 4 мільёнаў пасажыраў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## У зону з А.Лукашэнкам

Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) заяўляе аб гатоўнасці ўзяць удзел у сумеснай з Аляксандрам Лукашэнкам паездцы па чарнобыльскіх рэгіёнах, якая намечаная на 25-26 красавіка. Нагадаем, што, выступаючы 10 красавіка са штогадовым пасланнем да Нацыянальнага сходу, Аляксандр Лукашэнка запрасіў у гэтую паездку «апазіцыянераў, дыпламатаў і іншых». «Там з імі сустрэнемся і «Чарнобыльскі шлях» правядзем. Мы наперадзе, а яны за намі, як мы і рабілі 7 гадоў запар», — сказаў прэзідэнт.

Для паездкі АГП гатова накіраваць дэлегацыю на чале з намеснікам старшыні партыі Аляксандрам Дабравольскім. АГП расцэньвае гэтую ініцыятыву Лукашэнкі як «першую сур'ёзную прапанову, накіраваную на стварэнне клімату даверу ў грамадстве» і спадзяецца на адказнае выкананне «намеру партыі аб месцы і часе ад'езду ў чарнобыльскія рэгіёны.

**БелаПАН**

СУД

# Міхаіл і Юлія Чыгір супраць журналістаў БТ

У судзе Першамайскага раёна Мінска 19 красавіка пачнуцца слуханні па іску Міхаіла і Юліі Чыгір аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі і аб адказнасці за паклёп да журналістаў Беларускага тэлебачання.

Сярод адказчыкаў — вядучы праграмы «Панарама» Дзмітрый Косцін, журналіст Юрый Пракопаў, вядучы праграмы «Правы чалавека - погляд у свет» Яўген Новікаў і іншыя. Сума іску складае 110 мільёнаў рублёў. Істцы патрабуюць таксама абвяржэння хлусЛівых і паклёпніцкіх, на іх думку, звестак. Як гаворыцца ў іскавой заяве, « журналісты спасылаліся на хлусЛівыя звесткі, рапаўсюджвалі паклёпніцкія выдумкі, звязаныя з абвінавачаннем ва ўчыненні ўсімі членамі нашай сям'і цяжкіх злачынстваў». Як сцвярджаецца ў іску, журналісты БТ загадзя ведалі, што распаўсюджваемая імі інфармацыя ў шэрагу выпадкаў з'яўляецца хлуснёй або прадметам папярэдняга следства і ў адпаведнасці з законам аб друку не падлягае абнародаванню, таму што быццам бы ўчынены злачынны эпізод яшчэ не даказаны.

Юлія Чыгір наважана таксама падаць іск да Аляксандра Зімоўскага, які дапусціў, паводле яе словаў, хлуслівыя, паклёпніцкія і зневажальныя выказванні ў дачыненні да Юліі і Міхаіла Чыгір у праграме «Рэзананс» 1 красавіка.

**БелаПАН**

## На Магілёўшчыне нястача ўгнаенняў

Дэфіцыт мінеральных угнаенняў з'яўляецца адной з найбольш складаных праблемаў, што паўсталі перад сельгасвытворцамі Магілёўскай вобласці гэтай вясной.

На пачатак красавіка сельскагаспадарчыя прадпрыемствы вобласці былі забяспечаныя мінеральнымі ўгнаеннямі на 31% да патрэбнасці (56,7 тысячы тон дзеючага рэчыва). Пры гэтым забяспечанасць фосфарнымі ўгнаеннямі складае каля 15%. З улікам прадугледжанага фінансавання з бюджэтных сродкаў, а таксама накіравання авансаў і ўласных сродкаў гаспадарак, выніковая забяспечанасць калгасаў і саўгасаў вобласці азотнымі ўгнаеннямі застаецца на ўзроўні 65% да патрэбнасці, калійнымі — на 66%, фосфарнымі – 31%.

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН**

ЭКАЛОГІЯ

## Радыяцыі будзе больш

У новым кар'еры- магільніку для забруджаных цэзіем рэчаў ля вёскі Струга Столінскага раёна будзе пахаваны радыяцыйны грунт з так званага аб'екта №802 у Брэсце. Гэта былая перавалачная пляцоўка ля чыгуначных рэек на вуліцы Вароўскага блізу Брэсцкай крэпасці, дзе адбывалася перагрузка ўранавай руды для далейшай яе транспарціроўкі ў краіны былога сацыялістычнага лагера.

Тут, паводле некаторых экспертных ацэнак, узровень радыяцыйнага фону ў 60 разоў перавышае дапушчальны. Каб ачысціць гэты радыяцыйны сметнік у абласным цэнтры, урад выдаткаваў напачатку 1 мільярд рублёў. Яшчэ, пэўна, не менш грошай спатрэбіцца на сам працэс перапахавання, у выніку чаго найбольш пацярпелы на Брэстчыне ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Столінскі раён атрымае дадатковую порцыю смяротнаснай начынкі.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ЦЭНЫ

# Алкаголю наканавана даражэць

Урад зацвердзіў стаўкі акцызаў на вырабляемую ў краіне алкагольную прадукцыю ў другім квартале 2001 года.

У прыватнасці, акцызы на гарэлку і іншыя моцныя алкагольныя напоі і (за выключэннем некаторых пазіцыяў) устаноўлены ў красавіку на ўзроўні 4.230 рублёў, траўні — 4.455, чэрвені — 4.690.

Акцызы на лікёра-гарэлачныя вырабы з аб'ёмнай доляй этылавага спірту да 28 працэнтаў уключна складае ў красавіку 3.320 рублёў, траўні — 3.440, чэрвені — 3.550; каньяк — адпаведна 2.920, 3.010 і 3.100; брэндзі, кальвадос і каньячныя напоі — 1.900, 1.970 і 2.020; вермуты і віны, за выключэннем натуральных, ігрыстых, шампанскіх, шыпучых і газаваных — 530, 545 і 555; віны ігрыстыя і шампанскія — 590, 600 і 610; віны натуральныя вінаградныя і пладовыя, шыпучыя і газаваныя — 60, 61 і 62 рублі.

Акцызы на вінныя напоі з аб'ёмнай доляй этылавага спірту да 20% уключна ўстаноўлены ў красавіку на ўзроўні 4.140 рублёў, траўні — 4.280, чэрвені — 4.450; напоі вінныя з выкарыстаннем канцэнтраваных харчовых асноваў і натуральнай сыравіны — адпаведна 2.480, 2.540 і 2.600; слабаалкагольныя напоі з аб'ёмнай доляй этылавага спірту да 7% уключна — 940, 970 і 1.000; піва — 40, 41 і 42 рублі.

Па выніках першага паўгоддзя акцызы на алкагольную прадукцыю ўзрастуць у сярэднім на 14,6%. Болей за ўсё павялічыцца акцыз на гарэлку — на 34,8%.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

(Працяг тэмы на стар. 5)

ГАСПАДАРКА

## Калгасы і саўгасы пазычаюць дызпаліва

У красавіку Дзяржаўны камітэт па матэрыяльных рэзервах адпусціць у парадку часовага запазычання калгасам, саўгасам, іншым сельскагаспадарчым арганізацыям у выглядзе таварнага крэдыту 20 тысяч тон дызельнага паліва. Як вынікае з пастановы Савета міністраў, умовы выдачы гэтага таварнага крэдыту прадугледжваюць выдатковванне дызельнага паліва па цане 264.990 рублёў за тону з аплатай яго кошту да 31 снежня бягучага года па цане, дзеючай на момант водпуску.

Пастаўкі дызельнага паліва павінны быць праведзеныя праз абласныя арганізацыі па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні АПК на падставе дамоваў, заключаных імі з Дзяржкамітэтам па матэрыяльных рэзервах. Пры гэтым абласныя арганізацыі па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні АПК вызваляюцца ад выплаты працэнтаў за карыстанне запазычаным з дзяржаўнага рэзерву дызельным палівам, пастаўленым калгасам, саўгасам і іншым сельскагаспадарчым арганізацыям.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН**

# Эфірныя войны

## *На канале НТВ, дзе цяпер пануюць людзі «Газпрама», пяты дзень вядзецца «новае вяшчанне».*

Лагатып пратэсту з экрана быў зьняты. Журналісты, што засталіся, спрабуюць даказаць, што захавалі сваю незалежнасць, тым, хто пайшоў

### Што было

Да пачатку красавіка незалежная тэлекампанія НТВ прадстаўляла сабой даволі ўдалы ўзор інфармацыйнага прадукту на медыя-рынку. Дастаткова сказаць, што ягоная глядацкая аўдыторыя ацэньвалася ў 110 мільёнаў чалавек.

НТВ пачало сваё вяшчанне 10 кастрычніка 1993 года на пецярбургскім 5-м канале тэлебачання. Але ўжо 23 лістапада прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын падпісвае рашэньне аб трансляцыі перадачаў НТВ на «чацвёртай кнопцы». 17 студзеня 1994 года пачалося агульнарасійскае вяшчанне кампаніі.

Да расколу на кампанію працавала каля 1.200 чалавек. НТВ мела сваю карэспандэнцкую сетку ў Расіі і свеце – ад Санкт-Пецярбурга і Уладзівастока да Берліна, Вашынгтона і Лондана.

### Захоп НТВ

Як вядома, «захоп улады» на НТВ адбываўся ў ноч на суботу, 14 красавіка. Ён пачаўся каля дзвюх гадзінаў ночы зменай супрацоўнікаў службы аховы «Медыя-Моста» на газпромаўскіх байцоў. Вось сведчанне пра падзеі той ночы тэхнічнага супрацоўніка, якая не пажадала быць прадстаўленай: «Я пайшла на восьмы паверх, дзе месціцца офіс НТВ, у 4.30 раніцы... Побач з ліфтамі стаіць шмат журналістаў НТВ. Там стаялі Лабкоў, Максімоўская, Асокін, усяго чалавек 40, усе крычалі, шмат нерваваліся. Але сама рэдакцыя пустая. Рэчы журналістаў ляжалі, але за рэчамі іх не пускалі...Максімоўская спрачалася з ахоўай, ёй тут жа абвясцілі пра звальненне...

Ахова прадстаўляе сабой чалавек 12, двухметровага росту таварышчы... Дакументы яны правяралі ў некалькіх месцах па два разы. На стойцы ляжалі папкі, сінія, з дзіркамі. У іх сьпісы з прозвішчамі. Яны, здаецца, напісаны ад рукі. Пускалі толькі тых, хто ў сьпісах. Апроч таго, прысутнічалі абсалютна незразумелыя людзі, яны здымалі тых, хто прыходзіў, на маленькія лічбавыя камеры. Такіх камераў было дзве. Пачыналі яны здымаць, калі людзі пачыналі спрачацца.

Ахова не ведала маю пасаду, спыталася, хто я такая. Потым удакладніў, ці не журналіст я, калі пацвердзіла, што не журналіст, прапусцілі».

Уладзімір Кара-Мурза: «Я адразу ўзяў таксі і прыехаў. У таксіста набыў чорныя акуляры і... прайшоў праз запасны ўваход. Таму мяне ці то прынялі за штрэйкбрэхера, ці то не пазналі, але я трапіў на паверх. Я ведаю, што праблемы былі ўАндрэя Норкіна, у Мар'яны Максімоўскай: яны былі ў сьпісе тых, хто адхілены часова ад эфіру...

Спачатку я ўбачыў Ердана, Куліcіцкава і Дабрадзеева. Потым прыехалі Міткова, Парфёнаў і таксама сталі ўжо камандаваць. А ў гэты час хлопцы пісалі заявы пра звальненне...

На запасным уваходзе... там стаяў адзін ахоўнік – новы, незнаёмы. А тут, побач з маім пакоем, і, апроч таго, побач кожнага кабінета, як у фільме «17 імгненняў вясны», стаяў чалавек, заклаўшы рукі за сьпіну, рукі на шырыні плячэй. Гэта ля кожнага кабінета. Ля кабінета Кісялёва, ля самой студыі, два чалавекі стаялі побач з апаратнай і стаялі ўздоўж гэтых кабінетаў, дзе выпуск».



### Тыя, хто пайшоў

Тэлеканал НТВ пакінула каманда з 47 вядомых журналістаў і тэлевядучых. Апроч іх, пайшлі і некалькі соцень тэхнічных супрацоўнікаў – рэжысёраў, апэратараў, мантажораў і г.д. Сярод пайшоўшых – Яўген Кісялёў, Сьвятлана Сарокіна, Віктар Шэндэровіч, Міхаіл Асокін, Мар'яна Максімоўская, Павел Лабкоў, Эрнест Мацкявічус, Уладзімір Кара-Мурза, Канстанцін Тачылін, Андрэй Норкін... Большая частка з іх уладкавалася на працу ў тэлеканал ТНТ.

Гэты канал застаецца пад кантролем холдынга «Медыа-Мост». Ён вяшчае ў дэцыметровым дыяпазоне і не можа канкураваць з сённяшнім НТВ ні па плошчы пакрыцця, ні па колькасці гледачоў. У Беларусі ТНТ можна прымаць толькі праз спадарожнікавыя сістэмы або праз кабельныя сеткі.

Тэлесетка ТНТ – прыватны канал, які стварыўся для мэтаў рэгіянальнага вяшчання, у адрозненне ад агульнанацыянальнага НТВ. Ягоныя перадачы прымаюцца ў больш чым 500 гарадах Расіі.

На ТНТ пераехалі праграмы «Сегодня», «Старый телевизор», «В нашу гавань заходили корабли», «Итого», «Свидетель века», «Тушите свет!», «Час быка», «Итоги» і іншыя.



### Тыя, хто застаўся

У панядзелак тыя журналісты, што засталіся на НТВ, правялі агульны сход і абралі новы рэдакцыйны савет. Сходам кіравала Тацяна Міткова. Па яе словах, ніякага афіцыйнага статусу на НТВ яна не мае, але займаецца каардынацыяй службы інфармацыі і эфіру кампаніі.

У склад савета, як паведамляе сайт НТВ.ru, увайшлі Тацяна Міткова, Уладзімір Кулісцікаў, Леанід Парфёнаў, вядучыя навінаў тэлеканала Кірыл Пазняков і Пётр Марчанка, карэспандэнты Вячаслаў Грунскі, Юры Ліпатаў, Барыс Кальцоў, Уладзімір Кандрацьеў, Аляксей Піваварaў, Аляксандр Зіненка, былы кіраўнік беларускага бюро НТВ Аляксандр Калпакоў, Аляксандр Хабараў, а таксама шэф-рэдактар праграмы «Криминал» Уладзімір Залатніцкі.

Усяго на НТВ, па звестках НТВ.ru, засталося каля 20 з 50 маскоўскіх карэспандэнтаў кампаніі, большая частка рэдактараў навінаў і некалькі інфармацыйных вядучых.

### Каментары да апошніх падзеяў на НТВ

Віктар Шэндэровіч, вядучы праграмы «Итого», заявіў, што апошнія падзеі паказалі: асноўная мэта «захопнікаў» – не эканамічны прыбытак, а менавіта развал тэлекампаніі. «Калі мэтай быў бізнес, тады тое, што зроблена сёньня, ніякім чынам у гэтую мэту не ўкладваецца. Значыцца, мэта была іншая: развал тэлекампаніі», – такую думку ён выказаў у эфіры радыёстанцыі «Эхо Москвы» ў мінулую суботу.

Аляксандр Хабараў, які застаецца на НТВ, паведамляе, што новае кіраўніцтва прадаставіла для журналістаў поўную свабоду дзеяння – «новую адміністрацыю мы амаль не бачым».

Адзін з заснавальнікаў НТВ, цяперашні кіраўнік Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Алег Дабрадзееў заявіў, што на месцы НТВ «узнікне зусім іншая кампанія». Па ягоных словах, цяперашняе кіраўніцтва кампаніі будзе займацца яе падрыхтоўкай да публічнага продажу.

Тым часам, адзін з асноўных «пакупнікоў» – амерыканскі медыя-магнат Тэд Торнер – заявіў, што цяпер «перагледзвае сваё стаўленне да здзелкі па набыцці пакета акцыяў тэлекампаніі НТВ». Пра гэта заявіў пазаўчора афіцыйны прадстаўнік Т.Торнера ў Нью-Ёрку Браян Фо. Крыху раней адзін з асноўных акцыянераў канала Уладзімір Гусінскі заявіў, што лічыць цяпер «нерэзонны» здзелку з амерыканскім бізнесоўцам.

Агенцтва France Presse са спасылкай на заяву прадстаўніка дзяржддэпартамента Рычарда Баўчара паведаміла, што амерыканская адміністрацыя ўважліва адсочвае сітуацыю, якая складваецца вакол НТВ. Па словах Р.Баўчара, пераход НТВ у рукі «Газпрама» можа прадстаўляць сур'ёзную пагрозу свабодзе прэсы ў Расіі.

### Што будзе далей?

На канале ТВ-6, які кантралюецца расійскім алігархам Барысам Беразоўскім, плануюцца кардынальныя змены. У пятніцу, 14 красавіка выконваючым абавязкі генеральнага дырэктара канала быў прызначаны Яўген Кісялёў, раней адстаўлены з пасады гендырэктара і галоўнага рэдактара НТВ.

Барыс Беразоўскі фактычна «забясплатна» можа атрымаць новую – і лепшую – каманду журналістаў, якая істотна ўздыме рэйтынг ТВ-6. Ужо сёння можна назіраць, як усё больш людзей пераключаюцца з НТВ на ТВ-6 і ТНТ, каб глядзець навіны там. У адзін і той жа час выходзяць праграмы «Сегодня» (НТВ) і «Сегодня на ТНТ» (ТНТ). Па сваім аздабленні яны вельмі падобныя, але па інфармацыйнай напоўненасці ўжо адрозніваюцца.

Яўген Кісялёў выказаў думку, што ягоная каманда будзе ствараць новае тэлебачанне. Аднак для гэтага патрэбныя час і вялікія грошы. Пакуль невядома, якім менавіта шляхам пойдзе стварэнне гэтага канала.

Першыя некалькі месяцаў НТВ яшчэ будзе заставацца свабодным настолькі, наколькі магчыма. У сувязі з апошнімі падзеямі новым гаспадарам давядзецца шмат працаваць над аднаўленнем станоўчага іміджу канала. Адначасова будзе праводзіцца «прыкормка» журналістаў. А потым настане дзень «Д», калі супрацоўнікам патлумачаць, што «лінія партыі» змянілася ў іншы накірунак, і цяпер перадачы трэба будзе рабіць паіншаму. Больш лаяльна ў дачыненні да Крамля. І тады новым «зоркам» вельмі не захочацца развітвацца з цёплым крэслам у студыі, добрым заробкам і льготнымі крэдытамі, якія ім ужо паспелі паабяцаць новы генеральны дырэктар Барыс Ёрдан і кіраўнік «Газпром-Медыа» Альфрэд Кох.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# На Урал – за новай зброяй

Двухдзённы візіт А.Лукашэнкі ў Екацярынбург, фінал якога быў зьмазаны ў сувязі з датэрміновым вылетам беларускага кіраўніка ў Мінск, скончыўся падпісаннем пагаднення аб гандлёва-эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і расійскай вобласцю.

Выезд А.Лукашэнкі ў адзін з рэгіёнаў РФ быў першым за апошнія паўтара года. Уладзімір Пуцін аказаўся больш суровым гаспадаром, чым Барыс Ельцын, і заўсёды адмаўляў «аб'яднальніку славянскіх земляў» у ягоным жаданні паездзіць па «матушцы-Расеі». Цалкам заканамерна, дарэчы. І вось цяпер – дэбют пасля перапынку.

Ніхто не хаваў, што адна з асноўных мэтаў візіту – ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва. Беларускай арміі патрэбная новая зброя, бо старая ўжо маральна і тэхнічна састарэла, а лішкі не даўно прададзеныя за мяжу.

У аэрапорце «Кальцова» А.Лукашэнку сустракалі кіраўнікі выканаўчай і заканадаўчай улады Свярдлоўскай вобласці, а таксама мясцовыя «сілавікі». Падчас прэс-канферэнцыі ля трапа самалёта А.Лукашэнка падкрэсліў, што Беларусь з «Свярдлоўшчынай» звязваюць шчыльныя сувязі. Уральцы атрымоўваюць ад нас тралейбусы, сельскагаспадарчую тэхніку, тавары народнага спажывання. Летась тавараабарот паміж Беларуссю і Свярдлоўскай вобласцю склаў 82 мільёны долараў.

Падчас 45-хвілінnай сустрэчы паміж Алясандрам Лукашэнкам і губернатарам Свярдлоўскай вобласці Эдуардам Роселем актыўна абмяркоўвалася ідэя «ўзмацнення Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі». Э.Росель шчыра падзякаваў беларускаму кіраўніку за ягоную актыўную дзейнасць на гэтай ніве. Не паскваліўся на добрыя словы гаспадару і беларускі кіраўнік. Цікава, што той самы Э.Росель у 1992-1993 гадах актыўна выступаў за аддзяленне Урала ад Расіі і стварэнне незалежнай Уральскай рэспублікі.

Учора ўдзень А.Лукашэнка накіраваўся на дзяржаўнае прадпрыемства «Уралтрансмаш», якое займаецца выпускам рознай ваеннай тэхнікі, у прыватнасці, самаходных установак. Беларускага кіраўніка суправаджаў Э.Росель. Цікава, што далікатны дэпартамент інфармацыі губернатара паведаміў: «прэзідэнт і губернатар плануюць агледзець цэхі прадпрыемства, у прыватнасці, трамвайную вытворчасць». Але зусім не за трамваямі прыехаў А.Лукашэнка.

Пры гэтым, усе пытанні журналістаў накшталт «Якое менавіта ўзбраенне хоча набыць Беларусь?» Аляксандр Лукашэнка праігнараваў. Мабыць, баяўся выдаць ваенную тайну.

Перад вылетам у Мінск А.Лукашэнка паспеў сустрэцца з паўнамоцным прадстаўніком прэзідэнта Расійскай Федэрацыі ва Уральскай федэральнай акрузе Пятром Латышавым. Цікава, што «чалавек У.Пуціна» быў адзіным з мясцовага кіраўніцтва, хто не пажадаў сустракаць Аляксандра Лукашэнку ў аэрапорце.

Падчас сустрэчы А.Лукашэнка паведаміў, што Беларусь супрацоўнічае і будзе ўзмацняць сувязі з прадпрыемствамі абароннай прамысловасці Урала. «Мы зацікаўленыя ў стварэнні сумесных праектаў па мадэрнізацыі і канструяванні ваеннай тэхнікі, што вырабляецца ў Свярдлоўскай вобласці», – заявіў там беларускі кіраўнік.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Беларускія тытунёвыя фабрыкі скардзяцца на расейскія

Беларускія вытворцы цыгарэтаў – Гарадзенская і Менская тытунёвыя фабрыкі – праз канцэрн «Белдзяржхарчпрам» накіравалі заяву ў беларускі МЗС. Яны патрабуюць пачаць расьсьледаваньне паставак расейскай тытунёвай прадукцыі ў Беларусь. Паводле айчынных вытворцаў, пераважная большасьць танных цыгарэтаў трапляе на беларускі рынак незаконна.




Падставай да хваляваньняў сталі зьвесткі пра тое, што сёлета расейскія вытворцы маюць намер падвоіць сваю прысутнасьць на беларускім рынку. Летась з Расеі завезлі прыблізна 6 мільярдаў цыгарэтаў. А паводле статыстыкі, попыт на цыгарэты ў Беларусі складае да 17 мільярдаў штук на год.

Атрымаўшы заяву, беларускі МЗС зьвярнуўся па кансультацыі ва ўрад, і днямі была атрыманая згода на правядзеньне адпаведнага расьсьледаваньня. Кіраўнік Управы рэгуляваньня зьнешняга гандлю МЗС Вадзім Ламкоў кажа, што «пакуль ідзе дасьледаваньне сутнасьці пытаньня, таму цалкам магчыма, што наогул ніякага рашэньня прынята ня будзе —калі мы высьветлім, што нашым вытворцам не наносіцца ніякай шкоды. Тады канцэрну «Белдзяржхарчпрам» у пазове прыйдзецца адмовіць. Пакуль што гаворка ідзе наогул пра разгляд імпарту тытунёвых вырабаў у рэспубліку і ніякае ўзьдзеяньне на беларускую вытворчасьць: у прыватнасьці, хто, як, і колькі завозіць».

У расейскім гандлёвым прадстаўніцтве лічаць, што жорсткіх санкцыяў удасца пазьбегнуць. Эксперт Ірына Пашкова кажа, што, паводле неафіцыйных зьвестак, беларускі бок можа пераключыць увагу на іншых пастаўшчыкоў – прыкладам, на Польшчу ці Украіну: «Вытворцы, якім нанесеная шкода, саправды маюць права падаць адпаведную заяву. Але калі ў Расеі ёсьць камісія ў справе абарончых мераў і тарыфных пытаньняў, то ў вас яе няма. Таму ўсё ў руках міжведамаснай працоўнай групы, якая будзе разглядаць скаргі, дзе на прыкладах, на статыстыцы даказваецца нанесеная шкода. Пасьля зацікаўленыя краіны павінны гэта пракамэнтаваць і даслаць зьвесткі, якія пацьвярджаюць альбо абвяргаюць абвінавачаньні. Так у дыялёгу нараджаецца ісьціна, а ўжо потым вызначыцца, што гэта будуць за спосабы ўзьдзеяньня: антыдэмпінг альбо часовыя абарончыя меры».

Тым ня менш, пачатак афіцыйнага расьсьледаваньня прызначаны на 30 красавіка. Менавіта гэтай датай акрэсьлены тэрмін, калі свае контаргумэнты могуць выкласьці расейскія імпартэры. Але, паводле заканадаўства, расьсьледаваньне можа расьцягнуцца на 9 месяцаў. А гэтага тэрміну якраз дастаткова, каб Гарадзенскай ды Менскай фабрыкам канчаткова зьнікнуць з айчыннага рынку.

**Ігар КАРНЕЙ, Радыё Свабода**

 



*Ягоным перакладчыцкім талентам па-беларуску загучалі Гётэ, Ман, Брэхт, Рыльке, Гофман, Зюскінд і багата яшчэ якія нямецкія пісьменнікі (асобна тут стаіць Біблія). Але тое болей цэняць немцы, а не беларусы. Нядаўна беларускі перакладчык-германіст Васіль Сёмуха быў уганараваны дзяржаўным ордэнам Нямеччыны з адзнакай «За адраджэнне», а вось на радзіме ягоныя пераклады знаходзяцца па-за планамі выдавецтваў.*

# Трэба рабіць сваё

## *Два дзесяцігоддзі таму з-за перакладу гётаўскага «Фауста» Васіль Сёмуха быў выключаны з Саюза пісьменнікаў Беларусі*

***— Спадар Васіль, скуль вашая такая цікавасць да нямецкай мовы?***

— Гэта з вайны. Я быў 6-гадовым хлапчуком, калі ў мяне здарылася «вогненная вёска», адкуль выратаваўся выпадкова адзін я. Але тая трагедыя засталася ўва мне назаўжды, то было ўзрушэнне да шоку, сапраўдны нервовы зрыў. Ажно да тае ступені, што цётцы, у якой я стаў жыць у паваенны час, давялося падымаць, адкачваць мяне нібыта з пялёнак: нават шаптухамі і суцяшэннямі, што мама з татам вернуцца. Але ж цалкам тое не вытруціць. Нянавісці не было, быў пажыццёвы страх і комплекс. З таго часу не люблю ўсё ваеннае, усё ў мундзіры, што страляе, камандуе і слухаецца. Нямецкую мову добра ведала мая маці. Памятаю, як яна, седзячы са мной за кроснамі пад пісталетам, гаварыла з нямецкімі салдатамі панямецку. Гэтая мова і было тады адзіным, што магло мяне з ёй звязваць, калі я разумеў, што ніколі яна ўжо не вернецца. А з класа сёмага ўцягнуўся. Ну, а як у мову заглыбішся, учытаешся, то гэта канец канцоў, гэта навекі вечныя, столькі сакрэтаў і таямніцаў! Вось мы гаворым з вамі па-беларуску, але і сотай долі не ведаем таго, што ёсць у беларускай мове. Так з любой мовай. І няма непрыгожых моваў, ёсць толькі людзі, якія не ведаюць моваў, і ёсць «мудрацы», якія кажуць, што разумнае можна казаць толькі па-англійску і па-руску.

***— Мусіць, таму і надарылася вам тая трохі грэшная апантанасць, за якую вы нават публічна пакаяліся падчас уручэння ордэна «За заслугі перад Федэратыўнай Германскай Рэспублікай». Аб тым, як вы ў дзесятым класе выпісалі праз Пружанскую раённую бібліятэку з Нацыянальнай у Мінску томік твораў Гётэ на нямецкай мове, выразалі першую частку «Фауста» і ўсё падклеілі так, каб ніхто нічога не заўважыў і не здагадаўся. А цікава, як сталася, што вы пачалі перакладаць і перакладаць нямецкую літаратуру менавіта на беларускую мову?***

— Пасля школы я паехаў у Маскву і паступіў у МДУ на рамана-нямецкае аддзяленне філфака. Чаму я стаў перакладаць па-беларуску? У Маскве настальгія заела – і мовы хочацца, і бульбы. Там я ўпершыню адчуў сябе беларусам. Сярод студэнцтва зямляцтвы розныя ўтвараліся, і мы беларускае зямляцтва арганізавалі. Гаварылі між сабой толькі па-беларуску. У Мінску такога не было б, такі наш «іняз», тут за першы ж год адвярнулі і адвучылі б гаварыць па-беларуску. Так што я ўдзячны Маскве за тую настальгію. З гэтага і пайшло маё перакладніцтва. Вядома, зараз за тыя першыя пераклады сорамна. Але без гэтага немагчыма, бо пераклад – гэта адна суцэльная вучоба. І зараз, калі я перакладаю, тое самае. Няма такога, каб узяў сеў і пераклаў. Павінна быць нейкая падрыхтоўчая лексічная і стылістычная праца. На гэта ідзе шмат часу – і год, і два, а тое і болей. Ідзе прывыканне да кнігі, у яе трэба ўжыцца і палюбіць. Але пасля нешта аналагічнае перакладаць ужо нецікава. Для гэтага можна задаць праграму камп'ютэру, і ён зробіць (праўда, вельмі смешна перакладае камп'ютэр). Трэба, каб перакладчыку было цікава, цяжка, нязвычна і непаўторна.

***— Карацей, галоўны крытэрый, калі вы берацеся той альбо іншы твор перакладаць, каб ён вам абавязкова ўпадабаўся і меў пэўную навюткасць?***

— Непазбежна, калі для заробку, напрыклад, бярэшся перакладаць невялічкія пераклады, але гэта робіцца неяк механічна, і душу яно не грэе. Усе мае пераклады з розных часоў і розных літаратурных плыняў. Скажам, «Авантурнік Сімпліцысімус» Грымэльсгаўзэна — мая любімая кніга ў прозе (17 стагоддзе, нямецкае барока) і мой, я лічу, лепшы празаічны пераклад. Там столькі магчымасцяў для імправізацыяў і паказу харараства мовы. Нават такое ўражанне, што з рамана «Доктар Фаустус» Томаса Мана, за які мне прысудзілі Дзяржаўную прэмію імя Якуба Коласа, ніводнага слова няма, хіба што злучнікі «і» ды «але». Выглядае, што іх перакладалі абсалютна розныя людзі.

***— Як вы ставіцеся да дылетанцкага перакладніцтва?***

— Да дылетантызму пачаткоўцаў – нармальна, бо школу, навуку павінен прайсці кожны. А вось калі сталыя пісьменнікі гэтым займаюцца і ўпэўненыя, што перакласці два разы плюнуць... Я калісьці запытаўся ў Таісы Бондар, калі яна перакладала, ці аддасць яна нейкія знаходкі, цікавыя словы, што з'явіліся падчас перакладніцтва, у перакладаны тэкст ці забярэ іх да сваёй паэзіі? Яна адказала, што, канечне, у сваім вершы скарыстаю. Вось гэта павярхоўнасць. Наскокі прафесійных пісьменнікаў у перакладніцтва здараюцца звычайна дзеля падзаробку. Нібыта гэта можна зрабіць лягчэй усяго перакладам, хаця насамрэч, наадварот, цяжэй, чымсьці сваёй творчасцю, але яны гэта не разумеюць.



Аўтар «Фауста»



Перакладчык «Фауста» на беларускую мову

***— А што думаеце наконт так званых перакладаў, калі літаратар перакладае з замежных моваў праз пасярэдніцтва вядомай яму іншай мовы, для Беларусі ў дадзеным выпадку праз рускую мову?***

— Гэта амаральна. Так можна рабіць хіба што для азнаямлення з тым ці іншым творам, але за паўнавартасны пераклад выдаваць нельга. Калі я перакладаю, то ў мяне гэты аўтар ляжыць і на іншых мовах. Найбольш у мяне было такіх памочнікаў пры перакладзе Бібліі. Гэта для арыентацыі, для пошуку стылю, для выпрацоўкі неподобнага, але перакладаць усё ж трэба з арыгіналу.

***— Напачатку 90-ых гадоў у рэчышчы Адраджэння быў і ўздым перакладніцтва, зараз на кніжным рынку краіны замежная літаратура не прадстаўленая ў беларускамоўных перакладах і чвэрцю адсотка.***

— Гэта значыць, што запатрабаванасць у ёй грамадства не задавальняецца. Дакладней, не даюць. Гэтаксама як закрывалі вашую газету і як глушаць голас Васіля Быкава, што ён вымушаны шукаць прыстанку ў Нямеччыне. Не страляюць – проста душаць фінансава і паліваюць брудам, не даючы абараніцца. Гэта нармальны працэс для гэтай дзяржавы, для гэтай улады. Але мы мусім агрызацца, кусацца і рабіць сваё. Мае пераклады, хоць і не выходзілі вялікімі накладамі, тым не менш у кнігарнях не залежваліся. Але ўжо некалькі гадоў мая праца ляжыць у стале, нас з Рыгорам Барадуліным і Уладзімірам Арловым выспяткам выгналі з «Мастацкай літаратуры», выключылі з выдавецкіх планаў. Зараз выданне замежнай літаратуры беларускай мовай – выпадковасць, бо адмысловыя серыі начыста скасаваныя («Паэзія народаў свету», «Скарбы сусветнай літаратуры», альманах маладых перакладчыкаў «Даляглядзі»). Замест гэтага з'явілася «Всемирная литература», куды запрашаюцца збольшага маскоўскія перакладчыкі.

***— Васіль Сяргеевіч, што пераклалі і, на жаль, паклалі ў шуфляду апошняе?***

— Гэта раман «Мефіста» Клаўса Мана, сына Томаса Мана. Тут апісаны перыяд з 1928 па 1936 гады: як усталёўваўся фашызм у Нямеччыне і як паводзіла сябе ў тых умовах інтэлігенцыя. Адныя служылі д'яблу, іншыя – не. Дарэчы. Пасля вайны «Мефіста» быў забаронены як у ФРГ, гэтак і ў ГДР, бо многія пазналі сябе. Я таксама пазнаю ў героях рамана сваіх цяперашніх мінскіх знаёмых. Дзе ж я магу гэта апублікаваць?

***— Мефістофелеўская тэма відочна цэнтральная ў вашай перакладчыцкай творчасці.***

— Я пражыў усё жыццё пад «Фаустам» і яшчэ пад «Новым Запаветам»: Бог, д'ябал і чалавек паміж імі, паміж сіламі дабра і зла, пытанні, чаму талент служыць першаму ці другому? Пра гэта і яшчэ шэраг твораў, якія я пераклаў, яны нібыта акружаюць «Фауста» і «Біблію». Мне здаецца, па прачытанні іх чалавек крыху больш разумее жыццё.

**Інтэрв'ю ўзяў Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Агульнанацыянальная невырашальная задача

*Заканчэнне. Пачатак на стар.6*

У «Российской газете» ў артыкуле «Беларусь – равноправный партнёр», абвяргаючы думку простых расіянаў пра неабходнасць карміць галодных браткоў-задняпроўцаў, вучоныя-інтэгратары даюць наступную ілюстрацыю:

| Спажыванне адным жыхаром (кг за год) | Беларусь | Расія |
|---|---|---|
| Хлеб і хлебныя вырабы | 121 | 118 |
| Бульба | 180 | 130 |
| Мяса і мясныя вырабы | 60 | 49 |
| Малако і малочныя вырабы | 345 | 226 |
| Яйкі (шт.) | 292 | 210 |
| Гародніна | 86 | 75 |

Памножце самастойна 50 кг бульбы на 140 мільёнаў расіянаў і зразумейце, колькі газу яны дадуць нам за гэта без усялякай інтэграцыі. Толькі бульба павінна быць сусветнага стандарту, як нарыльскі нікель.

## Буракі

Наконт цукровых буракоў мы таксама маем нармалёвыя перспектывы. Прыродныя ўмовы выдатныя ў 20 раёнах на захадзе краіны. У Гарадзеі, Жабінцы, Скідалі і Слуцку ёсць перапрацоўчыя камбінаты. Зараз яны тэарэтычна здольныя перапрацаваць 1,4 млн. тон буракоў. Таму актуальным ёсць іхная мадэрнізацыя, каб выйсці на магутнасць у 2 млн. тон.

То гэтыя магутнасці дазволяць выраблять да паўмільёна тон цукру штогод, у т. л. з буракоў 150 тыс. тон, і адмовіцца ад імпарту. Гатункі цукровых буракоў, каторыя ёсць у айчынных навукоўцаў, і сучасныя тэхналогіі дазваляюць атрымліваць да 400 ц/га, утрыманнем цукру да 17% і заводскім астаткам у 13,5%.

То бок на ідэальныя 150 тыс. тон цукру пры ідэальнай урадлівасці, якасці сыравіны і руплівасці ўсіх, хто мае дачыненне да справы, патрэба ёсць ва ўраджаі ў 1,2 млн. т. Дарэчы, летась сабралі ў сярэднім па 289 ц/га, атрымалі тое самае і лічылі, што нядрэнна. Пры ўсім тым упёрлі на братэрскую Украіну 140 тыс. тон гатовага цукру, аж тыя пакрыўдзіліся.

## Вяршкі і масла

Наступны паказчык, а менавіта да выканання і дасягнення паказчыкаў заклікае нас валадар царскіх паўнамоцтваў, малако. Ці здольныя нашыя даяркі выцiснуць з нашых каровак патрэбны кіраўніцтву аб'ём вадкасці. Каб прагназаваць сітуацыю, напэўна звернемся да дынамікі. Летась атрымалі і калгасы, і сяляне 4,5 млн. тон малака, у 1994 г. – 5,5 млн. тон.

Па шчыльнасці рагуль на 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў наш край мае ганаровае 14 месца ў Еўропе. Прычым 67% статку кароваў сканцэнтраванае ў калгасах, дзе гэтыя пакутніцы даюць малака аж удвая болей за іспанскіх козаў – па 2 тоны. Між тым, чорна-пярэстыя кароўкі здольныя не толькі ўпрыгожваць айчынны пейзаж, а даваць па чатыры з паловаю тоны малака на год (у прыватных гаспадарках даюць у сярэднім па 3 т). Бычкі гэтай пароды ў першыя паўтара года жыцця, зразумела, пры адпаведным доглядзе, прыбываюць ледзь не на кілю жывой вагі за дзень.

Як давесці адказнасць задачы да кароваў, невядома.

## Статак

Мяса, асабліва ялавічыны, апошнімі гадамі хапала, бо быў недарод, за ім недакорм тры гады запар. Рагулек пускалі пад нож, свінак таксама не шкадавалі. Зараз мусім аднаўляць статак. Першабытны догляд старой бабулькі, свінскае, ва ўсіх сэнсах, жывенне гарадскіх парсюкоў і да таго падобныя штукі рынкавага сацыялізму на доўгія гады нас не ўратуюць.

| гады | на 01.01. кароваў, тыс. гал. | У т. л. прыватных | дзяржаўных |
|---|---|---|---|
| 1941 | 1956 | 1648 | 308 |
| 1961 | 2021 | 1215 | 806 |
| 1966 | 2331 | 1185 | 1146 |
| 1971 | 2490 | 1139 | 1351 |
| 1976 | 2680 | 1040 | 1640 |
| 1981 | 2738 | 890 | 1848 |
| 1986 | 2683 | 826 | 1857 |
| 1991 | 2362 | 663 | 1699 |
| 1994 | 2199 | 720 | 1471 |
| 2001 | 1845 | 600 | 1242 |

Рамантыка мікраскапічнай фермы мэтазгодная толькі дзеля багатых аматараў такой рамантыкі. Калі на тую ферму глядзець як на прадпрыемства, то яно відавочна будзе стратным. Дзяржаўных датацыяў нашы фермеры не дачакаюцца ні пры якой уладзе, бо грошай няма. Параўнайце, суадносіны памеру датацыяў да агульнага кошту аграпрадукцыі складаюць у сярэднім па Еўрасаюзе 45%, а у нас менш за 15%. Так што будзем спадзявацца, каб не дабраліся да нас тое шаленства з яшчурам, а то не ўбачым ні гэнага малачка, ні тога мяска.

## Праблематыка

Мусім, нарэшце, лагічна сшыхтаваць праблемы. Каб ісці ў будучыню, трэба перш-наперш пераадолець ізаляцыю нашай сельскай гаспадаркі ад сусветнай інфармацыйнай прасторы. Што казаць пра сялянаў, калі НДІ і вопытныя станцыі не маюць доступу да ведаў сваіх калегаў за мяжой. Спажыўцы інфармацыі дэмаралізаваныя і не падрыхтаваныя да глабальнага думання, а нацыянальнай інфармацыйнай прасторы не існуе.

Па-другое, нам бракуе інвестыцыяў. Каб атрымаць іх, трэба выканаць пэўныя ўмовы і рэкамендацыі галоўных інвестараў. Сусветны банк гатовы даць парады па рэструктурызацыі запазычанасці сельгаспрадпрыемстваў і павышэнні эфектыўнасці гаспадарання. Дарэчы, лепшыя дарадцы лічаць, што сёння ўжо танней стварыць новую сістэму гаспадарання на вёсцы, чым ратаваць тую, што засталася ў спадчыну ад камуністаў.

Але тыя камуністы з камсамольцамі акапаліся ва ўсёй вертыкалі знізу даверху. Лягчэй Кашчэя Несмяротнага золата пазбавіць, чым райкомаўскіх выкармышаў улікова-размеркавальных функцыяў і прымусіць сканцэнтравацца на аграрнай палітыцы і сацыяльнай сферы.

А калі іх добра прыціснуць, працуюць яны нядрэнна. Пералічвалі ж штогод у бюджэт СССР суму, эквівалентную 3 млрд. долараў. Зараз, у маштабах былога Саюза, мы вырабляем 16% масла, 14% мяса і экспартуем да 20% сваёй сельскагаспадарчай прадукцыі, пры тым, што саступаем Расіі па плошчы ў 80 разоў, а па насельніцтве — у 14 разоў.

Таму наступны крок відавочны, тым больш, што ўжо 47% гаспадарак дэманструюць усе прыкметы неплацежаздольнасці. Таму прычынамі — скарачэнне дзяржаўнай падтрымкі ў тры разы за апошнія дзесяць гадоў, рост падаткаў, скарачэнне крэдытавання, нізкі ўзровень аплаты працы.

Апошняя кропка заганнага кола асабліва балючая. Працуючы за дзве трэці мінімальнага спажывецкага бюджэту, вёска страціла за часы першага прэзідэнцтва трацiну працоўных рэсурсаў і больш за палову кіраўнікоў. Ацалелыя кадры на зношаным на тры чвэрці абсталяванні мусяць забяспечваць харчовую бяспеку. Адкуль яна возьмецца, калі дэфіцыт гандлёвага балансу па прадукцыі АПК перавышае штогод 300 млн. амерыканскіх долараў.

Шмат у чым гэта абумоўленае эфектыўнасцю, у тым ліку натуральных рэсурсаў. Натуральная прадукцыйнасць ворыва ў нас у 2,8 разы ніжэйшая за ЗША і ўдвая меншая за заходнееўрапейскую. Да таго ж аграрны наш сектар у пяць разоў болей энергаёмкі, чым у ЗША, і ў чатыры разы больш матэрыялаёмкі.

Таму канкурэнтаздольнасць па коштах ёсць таксама важным аспектам удасканалення аграсектара, каторы дае 10% экспарту краіны. 80% тога экспарту ідзе ў Расію, там мы вымушаныя канкурэнцыю ствараць на сусветным узроўні.

## Працоўная маса

Нарэшце, дзеля ўсіх магчымых дасягненняў патрэбныя не сённяшнія дзядулі з бабулямі, кожны чацвёрты з каторых хранічны алкаш, а цвярозыя і адукаваныя маладыя людзі. Між тым, 90% тых, што з'язджаюць да горада, маюць не больш за 30 гадоў.

Можа, як яны прыйдуць, мы пазбавімся ад жудасных стратаў у няспыннай бітве за ўраджай: летась загінула 117, знявечана 179 і паранена 3.665 нашых аграрагаротнікаў. Дзеля чаго?

Чым свята верыць, што на дысцыпліне і адказнасці можна за год і галіну перааснасціць, і сарты з пародамі новыя ўкараніць, і на сялянскім гарбе ўсёй нацыяй у рай уехаць, трэба падумаць лепей пра сялянскіх дзяцей і іхных бацькоў, што сёння ў вёсцы.

Бо, акрамя іх, нікога там не будзе. Ні пры гэтай уладзе, ні пры наступнай, ні ў вякі вякоў.

Амінь!

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

 

## Ці пачуе Госпад малітву варожасці?

Перад Пасхай манахі Святой гары Афон звярнуліся да праваслаўных вернікаў з заклікам маліцца аб адмене візіту папы рымскага ў Грэцыю

Папа Іаан Павел II плануе наведаць Афіны на пачатку траўня ў рамках паломніцтва па слядах апостала Паўла. Грэчаская сталіца будзе важным пунктам гэтага падарожжа, бо менавіта ў афінскім аэрапагу адбылася першая казань Паўла язычніцкім мудрацам, якую, па словах Іаана Паўла II, можна лічыць «сімвалам сустрэчы Евангелля з чалавечай культурай».

Хоць Святы сінод аўтакефальнай .Эладскай Праваслаўнай царквы (ЭПЦ) даў згоду на паездку папы ў Грэцыю, куды ён выпраўляецца па запрашэнні грэчаскага прэзідэнта, манастыры Афона, якія знаходзяцца ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхата і карыстаюцца значнай аўтаноміяй, выступілі супраць візіту, які, на думку кіраўніцтва манаскай абшчыны, «не дасць абсалютна нічога нашай Царкве і нашай краіне». Прадстаўнікі манастыроў заклікалі праваслаўных «з дапамогай малітвы і пакаяння» змагацца, каб візіт Іаана Паўла II у Грэцыю не адбыўся. Афонскія манахі таксама заклікалі іерархаў Эладскай царквы адклікаць сваю згоду на паездку папы рымскага.

Падобную пазіцыю афонскія манахі выказвалі болей трыццаці гадоў таму, калі ў Іерусаліме рыхтавалася сустрэча Усяленскага патрыярха Афінагора з папам Паўлам VI. Аднак, нягледзячы на малітоўнае супрацьстаянне, пачатае афонскімі абітальнікамі, гэтая сустрэча адбылася, і наступствамі яе стала істотнае пацяпленне адносінаў паміж праваслаўнымі і каталікамі. Магчыма, што пагроза пэўнага паляпшэння такіх адносінаў і паразумення і раздражняе манахаў, якія, дарэчы выступаюць у рамках шырокай кампаніі, скіраванай супраць паездкі рымскага папы ў Грэцыю і ва Украіну.

**Пятрусь КЛІМКОВІЧ**

**РЭТРАСПЕКТЫВА**

## Народный маршал или маршал-людоед?

Георгию Константиновичу Жукову ставят памятники, в его честь учреждают ордена и медали, его объявляют величайшим полководцем Второй мировой войны. «Народный маршал», «маршал-солдат», «маршал с грозным именем Георгий», «маршал Победы» — вот обычные эпитеты по отношению к Жукову. Апологеты Георгия Константиновича предпочитают не считать, сколько солдат зазря положил он в свою и чужую землю. Мол, был строг, но справедлив. Не щадил других, но не щадил и себя. И был истинным страдальцем за правду, испытав две опалы: при Сталине в 46-м и при Хрущеве в 57-м.

Все эти на первый взгляд вроде бы весомые аргументы разбиваются об один только документ, вышедший из-под пера Жукова в его бытность командующим Ленинградским фронтом. Это шифрограмма №4976 от 28 сентября 1941 года: «Разъяснить всему личному составу, что все семьи сдавшихся врагу будут расстреляны и по возвращении из плена они также будут все расстреляны». Сталинский приказ №270, вышедший месяцем раньше, был гораздо милосерднее. Семьи сдавшихся в плен красноармейцев он предписывал только лишать государственного пособия. Народный полководец в жестокости готов был превзойти самого диктатора. Так стоит ли ставить ему памятники? Ведь жуковский людоедский приказ предусматривал расстрел невинных женщин и детей, вплоть до грудных младенцев. Страх, что не сегодня-завтра тебя могут отправить в «штаб Тухачевского», маршал Победы, как и другие сталинские генералы и маршалы, вымещал на подчиненных.



А уж с тем, что Жуков положил солдат больше, чем любой другой полководец в мире, не спорят, кажется, даже его апологеты. Тут и поражение Юго-Западного фронта в первые дни войны, и кровопролитные безуспешные атаки Западного фронта на Ржевско-Вяземский плацдарм в 1942 году, и Берлинская операция. Можно привести картину безумного штурма Зееловских высот в последние недели войны, запечатленную одним из уцелевших комбатов. Он пробовал возразить, что немецкая система огня не подавлена и надо еще поработать артиллерии. Ему пригрозили расстрелом, если немедленно не поведет бойцов в атаку. После нескольких атак из 800 человек в строю осталось не более ста. Когда остатки батальона уже собирались отступить, дзот внезапно замолчал. Командир с немногими уцелевшими солдатами (офицеры были выбиты почти все) ворвался в дзот. Второй номер сопротивлялся, и его пристрелили. А первый номер уцелел: он сошел с ума, увидев перед собой такую гору трупов. Иначе Жуков воевать не умел.

В августе 44-го в одной из записок в Ставку о послевоенном устройстве армии Георгий Константинович утверждал: «Нужно быть культурным человеком, чтобы уметь быстро разобраться со своей техникой и техникой врага и, разобравшись, грамотно применить свою технику. Нужно правду сказать, что из-за неграмотности и бескультурья наших кадров мы очень часто несли большие потери в технике и живой силе, не достигнув возможного успеха». Эти слова целиком применимы к самому Жукову.

Вспомним, что первый свой орден в Красной Армии Жуков получил за чисто карательную операцию — подавление крестьянского восстания на Тамбовщине в 1921 году. Тогда он командовал эскадроном. А последней, четвертой Золотой Звезды Героя Советского Союза маршал удостоился в декабре 1956 года — не только в связи с 60-летием, но и за подавление антикоммунистического восстания венгерского народа. Наверное, символично, что свою карьеру Жуков начал и кончил как каратель.

**Борис СОКОЛОВ**
**grani. ru**

# Рэстаўрацыя не ў пашане

*Стан нашых помнікаў старажытнай архітэктуры сёння выклікае глыбокі сум. Можна па пальцах пералічыць «аб'екты», якія зведалі сапраўдную рэстаўрацыю. Бо сёння часцей пад назвай «рэстаўрацыя» адбываецца рэканструкцыя пад густ і патрэбы камерцыйнага заказчыка. Прыкладам, пра гэта сведчыць горасны вопыт Верхняга горада ў Мінску. Нават на свежа адрэстаўраваным будынку на плошчы Свабоды ужо дзівіць народ шыльда казіно «Admiral», хоць раней былі абяцанкі размесціць тут музей Мінска. Цяпер музей будзе чакаць, калі адбудуюць гарадскую ратушу.*



Шырокая рэстаўрацыя помнікаў гісторыі і культуры мае галоўнай перашкодай рэзкае скарачэнне асігнаванняў. Намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры міністэрстве культуры Беларусі Ігар Чарняўскі на прэс-канферэнцыі, якая праходзіла ў панядзелак, паведаміў, што гэтае скарачэнне пачалося ў 1993 годзе. Тады са сродкаў дзяржаўнага бюджэту на рэстаўрацыйныя работы было выдзелена 11 мільёнаў рублёў (у цэнах 1991 года). У апошнія чатыры гады, па словах І.Чарняўскага, аб'ём інвестыцыяў, якія выдзяляюцца Камітэту са сродкаў рэспубліканскага бюджэту, складае каля 3 мільёнаў рублёў (у цэнах 1991 года). Як бачна, скарачэнне істотнае – амаль у 4 разы.

Сёлета рэстаўрацыя вядзецца на 23 помніках гісторыі і культуры. На гэта з рэспубліканскага бюджэту Камітэт атрымае каля 1,5 мільярда рублёў. Яшчэ каля 680 мільёнаў рублёў пойдуць на капітальны рамонт 19 помнікаў архітэктуры. Грошы атрымаюць у першую чаргу Петрапаўлаўская царква ў Мінску (помнік XVII стагоддзя) і Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку (помнік XII стагоддзя), дзе аднаўляецца старажытны фрэскавы жывапіс. Таксама працягнецца рэстаўрацыя Гродзенскага і Навагрудскага замкаў.

Варта зазначыць, што малыя асігнаванні на рэстаўрацыю помнікаў па-ранейшаму не спрыяюць развіццю турыстычнага бізнеса. Зруйнаваныя помнікі ў дзесятках гарадоў даўно стварылі адмоўны імідж Беларусі, і многія мясціны, якія некалі прываблялі для наведвання тысячы людзей, сёння сталі забытымі мядзведжымі кутамі. Пакуль урад не асэнсуе, што людзям болей цікава паглядзець, прыкладам, сядзібу Тышкевіча ў Валожыне ці рэшткі кляштара картузіянцаў у Бярозе, ці адноўлены дом Касцюшкі ў Сяхновічах, чым тыповы лёдавы палац, датуль нічога са станам рэстаўрацыі ў нас не пераменіцца.

Турыстычны бізнес у краінах, якія маюць што паказаць, дае болей грошай, чым хімічная вытворчасць, і да таго ж забяспечвае рабочымі месцамі немалую колькасць людзей. Прыкладам, рэстаўрацыя Крэўскага замка (у магчымых межах) можа ператварыць Крэва ў прывабны цэнтр для турыстаў з Літвы, Польшчы, Германіі, не кажучы ўжо пра сваіх, і надаць актыўнае жыццё гэтаму ціхаму цяпер мястэчку.

Відавочна таксама, што за апошнія гады ад удзелу ў ахове помнікаў гісторыі і культуры былі адхіленыя грамадскія арганізацыі. Што пазбавіла кантролю дзейнасць чыноўнікаў у гэтай сферы.

Намеснік старшыні прэзідыума грамадскага аб'яднання «Добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» Галіна Саўчанка на ўзгаданай прэс-канферэнцыі адзначыла, што зараз невядомая дакладная колькасць беларускіх помнікаў гісторыі і культуры — апошнія такія звесткі датычацца 1988 года. Бо дагэтуль не здолелі скласці спісы гісторыка-культурных каштоўнасцей, якія па законе павінны абнаўляцца кожныя два гады.

Апрача таго, па словах Г.Саўчанка, парушаецца артыкул заканадаўства, які забараняе зносіць помнікі і змяняць іх аблічча толькі з дазволу Савета міністраў. Навуковая канферэнцыя па праблемах археалагічных помнікаў Беларусі, якая адбылася ў лістападзе мінулага года, зазначыла ў сваёй рэзалюцыі неабходнасць прыняцця новага закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Калі гэта адбудзецца, ніхто не ведае.

Лагічнае аб'яднанне Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў і Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пакуль што таксама натыкаецца на нейкі чыноўны сабатаж. Таму ў справе рэстаўрацыі адна рука не ведае, што робіць другая. Таму культура нясе адпаведныя вялізныя страты.

**Валянціна ДУНІНА**

# Зноў «Славія» ды БАТЭ?

Адразу чатыры клубы – «Славія», БАТЭ, «Тарпеда»-МАЗ, «Белшына» – узначалілі турнірную табліцу вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі па футболе пасля двух стартавых тураў.

Але па дадатковых паказчыках, у гэтым выпадку, забітых і прапушчаных мячоў, лідэрам з'яўляецца мінулагодні пераможца – клуб з Мазыра. Уражваюць дзесяць галоў футбалістаў з берагоў Прыпяці, сем з якіх на рахунку Рамана Васілюка і Валерыя Стрыпейкіса.

Лідзіруючае становішча квартэта камандаў можна было планаваць і да адкрыцця сезона: занадта моцныя склады і фінансавыя магчымасці маюць кожны з гэтых клубаў. Спецыялісты планавалі бачыць сярод іх і бронзавага прызёра мінулагодняга першынства – дынамаўцаў з Мінска, якія таксама ўзмацніліся да пачатку спаборніцтваў і запрасілі на пасаду галоўнага трэнера, вядомага спецыяліста з Расіі Аляксандра Піскарова. Мяркую, сталічныя футбалісты, канешне, складуць канкурэнцыю «Славіі» і БАТЭ, але параза некалькі дзён таму ў Магілёве мясцоваму «Дняпру-Трансмашу» з лікам 3:4 перасунула іх бліжэй да сярэдзіны турнірнай табліцы.

Увогуле, футбольны марафон, які завершыцца 7 лістапада, пачаўся без буйных сенсацыяў, можа толькі больш паспяховай гульні мы чакалі ад брэсцкага «Дынама». Як вядома, у гэтым сезоне беларускі чэмпіянат скараціўся з шаснаццаці да чатырнаццаці камандаў.

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Славія (Мазыр) | 2 | 2 | 0 | 0 | 10-0 | 6 |
| 2. Белшына (Бабруйск) | 2 | 2 | 0 | 0 | 3-0 | 6 |
| 3. БАТЭ (Барысаў) | 2 | 2 | 0 | 0 | 3-1 | 6 |
| 4. Тарпеда-МАЗ (Мінск) | 2 | 2 | 0 | 0 | 3-1 | 6 |
| 5. Шахцёр (Салігорск) | 2 | 1 | 1 | 0 | 1-0 | 4 |
| 6. Дынама (Мінск) | 2 | 1 | 0 | 1 | 5-4 | 3 |
| 7. Ведрыч-97 (Рэчыца) | 2 | 1 | 0 | 1 | 3-2 | 3 |
| 8. Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 2 | 1 | 0 | 1 | 4-4 | 3 |
| 9. Гомель | 2 | 0 | 1 | 1 | 0-1 | 1 |
| 10. Нёман-Белкард (Гродна) | 2 | 0 | 1 | 1 | 0-2 | 1 |
| 11. Маладзечна-2000 | 2 | 0 | 1 | 1 | 0-4 | 1 |
| 12. Нафтан-Дэвон (Наваполацк) | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-3 | 0 |
| 13. Дынама (Брэст) | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-4 | 0 |
| 14. Лакаматыў-96 (Віцебск) | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-9 | 0 |

Добра гэта ці дрэнна, пакажа, як заўсёды, будучыня. Але ўжо зараз адчуваецца, што «запісных», калі так можна сказаць, аўтсайдэраў не прадбачыцца, і колькасць вынікаў з буйным лікам на карысць аднаго з сапернікаў значна паменшыцца. А як тады быць з лікам 6:0 у гульні «Славіі» супраць віцебскага «Лакаматыва»? Вельмі моцна правёў два матчы чэмпіён. Больш таго, і ў сустрэчы з дэбютантам – «Маладзечнам» – футбалісты югаслава Улада Петравіча маглі забіць значна больш, чым чатыры галы. Дзеля веснавога футбола гульня «Славіі» выглядае зусім «палетняму».

Але ўжо ў бліжэйшую пятніцу, калі пройдзе першы раўнд чвэрцьфінальных матчаў за Кубак Беларусі, лідэра чакае сур'ёзнае выпрабаванне з боку сярэбранага прызёра – барысаўскага БАТЭ. І хтосьці з гэтых сапернікаў не трапіць увогуле ў паўфінал. БАТЭ ды «Славія» забяспечылі сабе месца ў розыгрышу еўрапейскіх Кубкаў. Але стаць уладальнікам ганаровага трафея Беларусі мараць і яны, асабліва барысаўчане, якім у гэтым сэнсе шанцавала менш.

Яшчэ тры пары адной чацвёртай фіналу складуць салігорскі «Шахцёр» – «Дынама» (Мінск), Гомель – «Белшына», рэчыцкі «Ведрыч-97» і каманда першай лігі «Тарпеда-Кадзіна» з Магілёва.

Чарговы, трэці тур чэмпіянату адбудзецца праз дзесяць дзён, 28 красавіка. А ў бліжэйшы аўторак на полі галоўнага стадыёна краіны правядуць трэніровачны матч кандыдаты ў зборную Беларусі.

Футбольны сезон у гэтым годзе абяцае быць вельмі цікавым!

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1702 Нумар падпісаны ў друк 17/04/2001 (15:00) Наклад – 9.370